# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрас: Byelorussian-American Association, Inc.
405 Belmont Avenue, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год III. № 6 (12) 13 Ліпеня 1952 г. NEW YORK, N. Y., U. S .A. July 13, 1952 Vol. III. № 6 (12)

# Палітычныя падзеі у сьвеце

## ПАГРОЗА НОВЫХ 38-х ПАРАЛЕЛЯЎ

### КАРЭЯ

Камэдыя перагавораў у Панмунджоме ўсё яшчэ працягваецца, ня гледзячы на новую заяву шэфа саюзнай дэлегацыі, ген. Хэррысона: „Мы пастанавілі, што нам патрэбная новая перадышка, бо мы змучаныя бясконцай камуністычнай прапагандай". Каб мець магчымасьць весьці гэтую прапаганду, камуністыя навет пайшлі на „ўступкі": яны ўжо пагаджаюцца даць права паўдзённым карэйцам на дабравольную рэпатрыяцыю, але жадаюць навароту „на родину" усіх паўночных карэйцаў і ўсіх кітайцаў, якія, як вядома, у большыні не жадаюць гэтага.

Аб гэтым добра ведаюць бальшавікі ды, разумеецца, што саюзьнікі нікогда ўжо сілай рэпатрыяваць ня будуць, карыстаюцца трыбунай перагавораў для свае прапаганды. Тымчасам гэта ім вельмі патрэбнае. Бо, як ня дзіўна, але яны ведаюць, што іхныя нявольнікі хочуць вайны, чакаюць на яе, каб пазбавіцца надта гарачага „сонейка", якое іх проста смаліць і ў падвалах МГБ, і на Салаўках, і на Калыме і ў іншых незьлічаных месцах сьмерці. Вызваленьне гэтае чакаецца перадусім ад Амэрыкі. І вось галавары Крамля наважылі запалохаць сваіх паняволеных „зьверствамі" амэрыканцаў, перадусім іхнай „бактэрыялягічнай" вайной. Гэтыя страхі бальшавікі распаўсюджваюць ня толькі сярод сваіх у сябе ўдома, але й па ўсім сьвеце. Днямі Малік паставіў навет гэтае пытаньне на паседжаньні Савету Бясьпекі ў АН. Бяда адно, што тут сядзяць ня сталінскія „гадункі", а свабодныя людзі, якія зажадалі такое простае й яснае рэчы, як высланьня камісіі на мейсца „злачынства", на што Малік палажыў... вэта! Дзіўна толькі, што саюзьнікі не карыстаюцца ў такіх выпадках таксама сваім правам вэта, бо гэткае вэта на вэта зьнішчожыла-б усякае вэта, так прынамсі вучыць пачатковая матэматыка, а гэта-ж навука салідная. Да таго нявольнікі з пад сталінскага „сонца" напэўна сказалі-б: вось гэта ўрэшце нам падабаецца, гэта лепш за „Голас Амэрыкі".

Нязвычайна павучальнае для нас рэха бамбардыроўкі бальшавіцкіх гідраэлектроўняў у Карэі.

Абурыўся на гэтую бомбардыроўку, ясна, перадусім Нэгру, за ім — Ангельшчына ды Францыя! Шынвэл, былы ваенны міністар лейбарыстаў, навет нагадаў пры гэтым, што пад націскам ягонага Ураду быў свайго часу зволнены ад сваіх абавязкаў Мэк Артур! Магчыма ён меў на думцы, што цяпер тое самае варта было-б зрабіць і з ген. Кларкам!

Тымчасам тыя, каму належала-б абурацца — Масква й Пекін чамусьці маўчаць аб гэтых бамбардыроўках! Гэтае маўчаньне некаторыя газэты тлумачаць тым, што для іх выгадней, калі на такую функцыю знайшліся бясплатныя адвакаты, добрыя, ды да таго й дарэмныя.

### НЯМЕЧЧЫНА

Канцлер Адэнаўэр зьвярнуўся да амэрыканскага вярхоўнага Камісара з просьбай адправіць саюзныя войскі на граніцы Заходняй і Усходняй Нямеччыны, у раёны Гельмштэдта, Гарца й Любэка, бо тут бальшавікі сканцэнтравалі ўжо вялікія ваенныя сілы й ёсьць небясьпека, што яны могуць штодня „перайсьці" мяжу. Адэнаўэр уважае, што ў выпадку канцэнтрацыі тут саюзных войскаў, асабліва танкаў і артылерыі, у бальшавікоў адпадзе ахвота да рызыкоўных чынаў.

Бальшавіцкая прапаганда супраць амэрыканцаў абагацілася новымі „вынаходамі": яны цьвердзяць, што амэрыканцы пасылаюць у іхную зону адмысловых агентаў, якія даюць дзецям „выбуховыя пёры й алавікі", якія ўзрываюцца й калечаць дзяцей. Ня зьдзівімся, калі неўзабаве пачуем, што гэтыя пёры ды алавікі поўныя... бактэрыяў! І гэта можа сапраўды стацца, бо ці-ж шкада „бацьку" пары тысячаў дзяцей дзеля прапаганды?

Аб усялякіх магчымасьцях у Нямеччыне гавораць такія аўтарытэты, як Эчысон і Ідэн. Пасьля супольнай канфэрэнцыі, яны заявілі, што трэба лічыцца з магчымасьцю савецкай агрэсіі ў Нямеччыне на працягу летніх месяцаў і што Крэмль будзе імкнуцца да эвакуацыі саюзных войскаў з Бэрліна. Аднак, Эчысон, будучы нядаўна там, сьцьвердзіў, што саюзьнікі застануцца ў Бэрліне, а ўсе атакі агрэсара супраць гэтага места будуць уважацца атакамі супроць саюзьнікаў.

З гэтай заявы Эчысона ясна відаць, што ў выпадку камуністычнае агрэсіі ў Нямеччыне, заходнія дзяржавы гатовыя да вайны, якая ахапіла-б усе дзяржавы сьвету. Дык усё магчымае. Але магчыма таксама, што Сталін хоча тымчасам падзяліць вялікую вайну на „этапы": на новыя 38-ыя паралелі.

### ФРАНЦЫЯ

Французкі суд не знайшоў у дзейнасьці камуністычнага правадыра Дюкло доваду падрыхтоўкі да дзяржаўнага перавароту й зволніў яго з турмы. Усьлед за гэтым адбылося паседжаньне Ураду, на якім было пастаноўлена сабраць матарыялы аб дзейнасьці камуністых супраць рэспублікі й пачаць супраць Дюкло судовы працэс. Адзін з прадстаўнікоў Ураду — Марселлэн на прыйме прэсы заявіў: „Мы яшчэ не сказалі апошняга слова". Але „апошняе" слова мае ці будзе мець таксама й Дюкло, толькі, магчыма, яно будзе іншага характару.

### ВУГОРШЧЫНА

Паводля вестак, ўсьлед за Усходняй Нямеччынай, Вугоршчына таксама пачала падрыхтоўку пасмы „нічыёй зямлі" на межах із Югаславіяй, Аўстрыяй і Чэхаславаччынай. З гэтае пасмы высяляецца ўсё жыхарства, перадусім сяляне й рамесьнікі, а таксама драбнейшыя ўрадоўцы. Высяленьне праводзіцца ўначы органамі „паліцыі бясьпекі". З пайнфармаваных кругоў перадаецца, што гэтае высяленьне, іначай кажучы — вынішчэньне, праводзіцца дзеля „стратэгічных мэтаў". Камуністыя пачалі „ліквідацыю" ўсіх тых, хто дасюль не здабыў іхнага даверу. Што гэта загад Крамля, для кажнага ясна.

У сувязі з гэтым заслугоўваюць на давер паведамленьні з Югаславіі аб тым, што ўздоўж ейнае мяжы із Вугоршчынай сканцэнтраваныя савецкія войскі, якія складаюцца пераважна з вялікіх танкавых часткаў і аддзелаў артылерыі. Дзеля гэтага Югаславія узялася за памацненьне сваіх межаў. Скрозь капаюцца акопы, будуюцца платы з калючага дроту й назіральныя вежы.

### ІРАН

Чырвоная Масква выслала Ураду Масадыка вострую ноту пратэсту ў сувязі із атрыманай ім дапамогай з Амэрыкі, тлумачачы свой пратэст тым, што гэтая дапамога парушае дагавор Масквы з Тэгеранам з 1921 г. Урад Масадыка станоўка адхіліў гэты пратэст, як „пазбаўлены усялякае падставы".

### ЯПОНІЯ

Японскія камуністыя „адсьвяткавалі" другія ўгодкі вайны ў Карэі масавымі дэманстрацыямі і нападамі. На лягеры, у якіх жывуць амэрыканскія жанчыны й дзеці, былі навет кінены бомбы. Напады былі праведзеныя ўначы. Удзень дэманстранты кінулі ў самаход ген. К. Кларка, камандуючага ваеннаю акругаю Асакі, бомбу з сернай кісьлёй, якою генэрал быў лёгка ранены. Паліцыя Асакі арыштавала 57 камуністых, сярод іх 3-х жанчын. У горадзе Фужыта камуністычная банда ў 1000 чалавек, азброеная кіямі, зялезнымі пікамі й нажамі спаліла некалькі аўтаў, разьбіла паліцэйскія будкі ды нарабіла іншае шкоды.

У сувязі з такой „дзейнасьцю" камуністых японскі Сэнат прыняў закон, які дае права Ураду абвесьціць незаконнымі тыя арганізацыі й партыі, якія дзейна выступаюць супраць існуючых парадкаў. Новы закон мае быць ратыфікаваны соймам і накіраваны перадусім супраць камуністых. Проці яго галасавалі ў Сэнаце камуністыя, сацыялістыя й прадстаўнікі батрацкае партыі, усяго 79 сэнатараў. Закон быў прыняты бальшынёю 132-х галасоў.

С. К.

# Перагляд працы радыя „Голас Амэрыкі"

Сэнацкая камісія замежных справаў у Вашынгтоне прыняла рэзалюцыю Бэнтона й Вайлі ў справе вызначэньня адмысловае падкамісіі дзеля правядзеньня перагляду дасюлешняе працы радыя „Голасу Амэрыкі".

Справа ў тым, што радыё-перадачы „Голасу Амэрыкі" як проці-прапаганда савецкім прапагандавым радыё-перадачам, маюць параўнальна слабыя вынікі. Падкамісія, як падаюць амэрыканскія газэты, мае апрацаваць праэкт палепшаньня радыё-перадачаў „Голасу Амэрыкі" ў сэнсе іхнага лепшага узьдзейнічаньня на савецкага слухача.

Гэтая зацемка тутэйшае прэсы, быццам радыё-перадачы „Голасу Амэрыкі" як дагэтуль ня вытрымліваюць канкурэнцыі савецкае нахабнае прапаганды, ня есьць нічым дзіўным для нас, беларусаў.

Ці-ж можа мець належную ўдачу прапаганда „Голасу Амэрыкі", якая ўсьцяж памінае радыё-перадачы ў мовах цэлых нацыяў, якія апынуліся сяньня пад савецкім панаваньнем?

Прыкладам, наш 18-ці мільённы Беларускі народ, які мае за сабой шмат стагодзьдзяў незалежнага дзяржаўнага жыцьця, сваю собскую мову, культуру, свае патрэбы, — цалкам і ўпарта памінаецца „Голасам Амэрыкі". Беларускія эміграцыйныя дзейнікі як у ЗША, так і ў іншых краінах беларускае эміграцыі колькі год раз па разе зьвяртаюцца да адказных амэрыканскіх дзейнікаў з просьбай улучыць у радыё-перадачы „Голасу Амэрыкі" перадачы ў беларускай мове, з праграмай, якая цікавіла-б беларусаў. Аднак, дарма што напісаныя ўжо і ў „Голас Амэрыкі" і непасярэдна ў Вашынгтон дзясяткі лістоў і мэмар'ялаў ад розных беларускіх арганізацыяў усяго сьвету, — да гэтага часу справа ня зрушылася з месца. І Беларускі народ, што пакутуе сяньня пад бальшавіцкай пятою, дзе яго кормяць бессаромнай савецкай прапагандай, слухаючы радыё-перадачаў „Голасу Амэрыкі" ў мове сваіх прыгнятальнікаў, ня могучы сабе ўявіць, як і мы тут, гэтага дзіўнага зьявішча, разумее яго ў сэнсе ігнараваньня Амэрыкай Беларусі, як апрычонага гаспадарства (сяньня БССР), а беларускага народу як вартага, каб гаварыць да яго ягонай роднай мовай.

# „Няслауны" закон

Днямі, ня гледзячы на зацятае змаганьне, безьліч мэмарыялаў ад розных арганізацыяў і вэта самога прэз. Трумана, прайшоў і зацьверджаны эміграцыйны закон Мэк-Кэррэна, асабліва некарысны для эмігрантаў з Усходняе Эўропы. Закон будзе абавязваць ад 1-га студзеня налета.

Новы эміграцыйны закон прадугледжвае вялікія (параўнальна) эміграцыйныя квоты для Ангельшчыны, Нямеччыны і Ірляндыі, але сьмешна малыя для народаў Усходняе Эўропы, асабліва для былых падсавецкіх і польскіх грамадзян, якія складаюць якраз сяньня бальшыню людзей, што жадаюць эміграваць у ЗША. (для Польшчы 6.448 візаў, для былых савецкіх грамадзянаў усяго 2679 візаў на год).

Але закон Мэк-Кэррэна, дарма што несправядлівы й састарэлы ў дачыненьні да нас і нашых суседзяў, цікавы зусім новаю ў гісторыі амэрыканскае эміграцыі справаю дазволу ўпяршыню эміграваць у Амэрыку народам васьмі краінаў Азыі. Праўда, дазвол гэты, на справе, больш сымбалічны, бо квота, вызначаная для гэтых азыятыцкіх краінаў усяго 100 візаў у год на кажную, аднак ён адхіляе яшчэ адно расавае абмежаваньне амэрыканскага заканадаўства, што ўважаецца амэрыканскімі дзейнікамі за яшчэ адну перамогу дэмакратыі.

Закрануўшы справы эміграцыі, варта ўспомніць тут і аб сутучнай із справамі эміграцыі весткай з амэрыканскіх крыніцаў у Мюнхене:

Паведамляецца, што паводка ўцекачоў з за Зялезнае Заслоны, яшчэ такая бурлівая кагадзе, блізу зусім спынілася апошнімі тыднямі. Адна з прычынаў гэтае сумнае зьявы — умацаваньне камуністымі сваіх граніцаў з Заходняй Нямеччынай. З вялікай крыўдай жыхарства прымежнае прасторы, з дапамогаю чырвонае паліцыі й войска, усе немцы ля мяжы із Заходняй Нямеччынай, былі выселеныя бальшавікамі з сваіх адвечных сялібаў, а хаты й маемасьць іхная зьнішчаныя й спаленыя. Падсавецкія краіны за Зялезнай Заслонай сталіся сяньня яшчэ горшай турмою, а ўсё іхнае жыхарства — сапраўднымі вязьнямі.

Але памацненьне аховы межаў не адзіная прычына спыненьня хвалі ўцекачоў з за Зялезнае Заслоны. Няма сумліву, што прычынілася да гэтага й нязвычайна цяжкое палажэньне ўцекачоў з усходу, у якое яны трапляюць, перайшоўшы мяжу, аб чым чуткі сягаюць аж на той бок. Праца IРО спыненая, Урад Заходняй Нямеччыны, што дапамагае ўжо сотням тысячаў сваіх уцекачоў, а таксама ўтрымлівае шмат „недабіткаў" ДП, ня мае грошы, каб даць належную апеку і ўтрыманьне новым уцекачом. Усе яны трапляюць у лягеры, дзе жывуць у ўмовах добра знаных кажнаму

(Канец на 4-ай бал.)

# ЗА СВАБОДУ

„За свабоду сваю
Усёй душой пастаю"...
Я. Купала

Кажны чалавек, кажнае грамадзтва, кажны народ, што дарос ужо да таго, каб так звацца, любіць, цэніць і імкнецца да свабоды. Свабода сяньня — гэта найдаражэйшая рэч, найбольшае дабрадзейства сучаснасьці, найпаважнейшы козыр дэмакратычнага ладу. Ці-ж дзіва, што козыр гэты імкнуцца перахапіць дыктатарскія кірункі й партыі, што ня ведаюць сапраўднае свабоды, ні сапраўднае дэмакратыі, чыя самаволя заціснула зялезнай аброцьцю жыцьцё народу, якому, як таму евангельскаму жабраку камень замест хлеба, — яны падаюць сяньня замест свабоды — гвалт, замест дэмакратыі — найчарнейшы, найбольш рэакцыйны прыгнёт, замыкаюць дух гэтага народу дзесяцьма ключамі й дзесяцьма замкамі — у вязьніцы.

Цяжкі быў шлях свабоды на працягу вякоў. Нялёгка давалася ёй перамога. Яна каштавала безьлічы ахвяраў і нясьціханага змаганьня.

Змагаўся некалі за свабоду свае малое бацькаўшчыны-Швайцарыі змагар Тыль Ойленшпігель. Змагаліся на працягу вякоў за сваё вызваленьне з пад турэцкага ярма свабодалюбныя Балканскія народы. Крывава ўсьцішаў вугорцаў Мікалай Першы. Геройчна змагаліся з ненажэрным расейскім панявольнікам Каўкаскія народы на чале із Шамілем. Вельмі тыповы прыклад змаганьня за свабоду даюць нам і Паўночныя Штаты Амэрыкі. Гэты край, які да 18-га стагодзьдзя быў звычайнай ангельскай калёніяй, здабыў сабе незалежнасьць у выніку даўгога і ўпорыстага змаганьня. Вызвольную вайну Амэрыка пачала, будучы шмат слабейшаю ад свайго прыгнятальніка. Аднак, дзякуючы нязвычайнаму характару сваіх правадыроў, як напр. Жоржа Вашынгтона і інш. і наважанасьці ўсяго амэрыканскага народу, — яна перамагла. Вызваліўшыся з пад чужога панаваньня, Амэрыка ў вельмі хуткім часе сталася першым краем у сьвеце, як у сэнсе эканамічнага дабрабыту, так і сапраўднае свабоды. Сяньня-ж Амэрыка — адзіная надзея й апора свабодалюбных народаў усяго сьвету.

Змагаўся за свабоду й незалежнасьць на працягу ўсяе свае гісторыі і наш беларускі народ. У пару Вялікага Княства Літоўскага ён асягнуў найвышэйшы ўзровень дзяржаўнага й культурнага жыцьця ,адно баронячыся ад сваіх варагоў, асабліва Маскоўшчыны, што бязупынна націскала на нашыя ўсходнія межы. Пасьля заняпаду нашага гаспадарства народ наш увайшоў у новую зьмяну змаганьня — нясупыннае ходаньне за сваё вызваленьне. Бо Маскоўскі ўрад закуў наш край у цяжкую няволю. Нават назвы Беларусь, беларус, накіненыя нам тою-ж Масквою, здаліся ёй небясьпечнымі й былі замененыя на „Северо-Западный Край", а ймя народу — на „тоже русский".

Аднак, ледзь блізнула было, яшчэ ня сонцам, а цьмяным адно праменьчыкам, прачуцьцё свабоды ў 1905 годзе, — і адразу загаварылі на сваёй „простай" мове адзін па адным нашыя песьняры, пусьцілі глебу да нацыянальнага адраджэньня. Дарма, што ўсялякія перашкоды, адраджэнцкі рух беларускага народу ўсьцяж дужэў і завяршыўся ўрэшце Вялікім Актам 25 сакавіка 1918 году.

Сяньня наш народ апынуўся пад Маскоўскай няволяй у новай ейнай адмене — камуністычнай. Камуністычны рэжым ужо блізу трыццаць пяць год бязьлітасна вынішчае наш народ, накідаючы яму сваю ідэалёгію й гаспадарскую пабудову. Аднак, наш на-

## Другая дэкада беларускага мастацтва й літаратуры у Маскве

Савецкая беларуская газэта „Зьвязда" пачынае цяпер раз па разе падаваць весткі аб падрыхтоўцы мастацкіх арганізацыяў і асобных мастакоў да прадбачанае дэкады беларускае літаратуры й мастацтва ў Маскве. Дэкада гэтая вызначаная на лістапад г. году і ў адрозьненьне ад першае дэкады з 1941 году, мае ня толькі паказаць беларускае мастацтва (на першай дэкадзе было перадусім прадстаўленае мастацтва й музыка), а й літаратуру. Як відаць з матар'ялаў, цяпер асаблівая ўвага аддаецца працы абодвух беларускіх драматычных тэатраў (у папярэдняй дэкадзе ўдзельнічаў толькі І-шы дзяржаўны тэатар), І-ы імя Янкі Купалы й ІІ-гі — імя Якуба Коласа. Цікава пагледзець, што-ж рыхтуюць гэтыя тэатры для паказу? А вось што! — „Кастрычнік" — М. Чыаурэлі (дзе падаюцца вобразы Леніна й Сталіна), „Гора ад розуму" — Грыбаедава і „Ворагі" — Горкага. Атрымліваецца, што беларускую драматургію будуць прадстаўляць **беларускія драматургі** Горкі, Грыбаедаў і Чыаурэлі. А хто-ж будзе ставіць гэтыя паказы? — Таксама **„беларусы":** — лаўрэат Сталінскай прэміі, народны артыст РСФСР Іван Судакоў, рэжысэр Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага тэатру І. Раеўскі й заслужаны артыст **Удмурскай АССР** — А. Скібнеўскі.

Да вялікага беларускага тэатру опэры й балету наглядальнікамі, кіраўнікамі й дарадчыкамі прыдзеленыя Масквою і народныя артыст СССР, дырыгент Маскоўскага Вялікага Тэатру Галанаваў і расейскі знаны кампазытар Ю. Шапорын. Нават такая пэрсона-грата ў Беларусі, як Аляксандроўская, што мае й найвышэйшае імя народнае артысткі, і гонар быць лаўрэатам Сталінскай прэміі і ардэнаносьніцай ордэну Леніна, — ня мае ў Маскоўскіх кіраўнікоў асобага даверу што да сваіх мастацкіх ведаў і ёй у дапамогу прысланы рэжысэр Вялікага Мастацкага Тэатру Пакроўскі. Выглядае так: Шэрыя й бедныя гэтыя беларусы, нічога сваёга ў іх няма. Дачакаліся аж **Удмурскіх** настаўнікаў!

Але ўсё-ж ясна, што ня можна запоўніць „беларускую" дэкаду толькі такімі чыста-беларускімі рэчамі, як „Гора ад розуму" Грыбаедава. Згодна із „перамогаю Ленінска-Сталінскай" нацыянальнай палітыкі, трэба даць нешта і ад „туземцаў", або па нашаму „тутэйшых". І вось, паралельна із расейска-удмурскім рэпэртуарам, ідзе праца і над п'есамі „Шчасьце паэты" (аб Янку Купале) В. Віткі і „Пяюць жаўранкі" К. Крапівы.

Што-ж, дзякуй і за гэта! Разам із гэтым нашыя „апякуны" яшчэ гуляюць у „хаванкі": бяруць адразу тры (нават і няскончаныя) рэчы і маюць прабаваць, якая будзе лепшаю, — тая й пойдзе ў дэкаду. А ў опэрным Менскім тэатры, які **яшчэ ня мае беларускае опэры для дэкады,** робяць яшчэ мудрэй. Лібрэтыстыя Броўка й Рамановіч „працуюць у цесным кантакце з калектывам тэатру" і зьбіраюцца неўзабаве на **Партыйным Сходзе** зачытаць **„канчатковы варыянт"** свайго лібрэта. Значыць савецкую сапраўднасьць, хочацца выразіць сваё спачуваньне і Броўцы й Раманоўскаму да спытацца ў іх: які-ж па ліку будзе гэты „канчатковы варыянт"?

Але хай і так. Дазволім уявіць сабе, што партыйны сход зацьвердзіў лібрэта. Цяпер у нас ужо ліпень, значыцца да лістападу засталося ўсяго чатыры месяцы. Калі-ж уявіць сабе, што опэру, нават стаханаўскімі тэмпамі, раней як праз тры-чатыры месяцы паставіць ня можна, дык кампазытару (опэру піша Цікоцкі) застаецца **адзін месяц** на пісаньне опэры. Ці-ж гэта не вар'яцтва, дарагія „таварышы"?

Чайкоўскі пабіў усе сусьветныя рэкорды, напісаўшы адну опэру, асабліва натхніўшыся й захапіўшыся тэмаю, на працягу **шасьцёх месяцаў,** а вы хочаце... Але што тут гаварыць? Шкада кажнага слова!

**М. Менскі**

## За свабоду

(Працяг)

род упорыста бароніцца, нясучы вялізарныя ахвяры.

Нам, невялічкай частцы гэтага народу пашэньціла вырвацца з бальшавіцкае катаргі й апынуцца на эміграцыі па ўсіх краінах сьвету. Тут на нас ляжыць вялікае й вельмі адказнае заданьне: усьведамляць сьвет аб жудаснай праўдзе, аб тым, як пакутуе сяньня наш беларускі народ. Мы павінны працягваць на эміграцыі беларускую нацыянальную працу з той самай наважанасьцяй, з якой змагаецца на бацькаўшчыне наш народ із сваім панявольнікам. Праўда, нашыя жыцьцёвыя ўмовы ўсьцяж вельмі цяжкія, бо кажны мусіць тут працаваць фізычна на кавалак хлеба, аднак, і гэтта вытрываласьць і ахвярнасьць могуць зрабіць шмат для беларускай справы. Прыклады з гісторыі ясна сьветчаць, што народы вызваляліся з пад чужацкага панаваньня толькі пасьля ўпорыстага, даўгога, самаахвярнага змаганьня.

Дык будзьма-ж і мы ўпорыстымі ў нашым ходаньні. Працуйма ўсе для нашай вызвольнай ідэі, хай нам здаецца часам, што вынікі гэтага змаганьня — нявялікія. Калі кажны з нас дакіне хоць зернятка да агульнае справы, — вызваленьне нашае Радзімы станецца явай.

Бо наўсуперак жыцьцю ніхто ня пойдзе. Яно мае свае законы й свае правы. Адно зь іх — гэта права свабоды. І сяньня, калі змаганьне за гэтае права ідзе не на жыцьцё, а на сьмерць, — мы можам з гонарам сьцьвердзіць і нашае беларускае ў ім месца. Яно сяньня пад сьцягам свабоды, які ўзьняты быў 25 сакавіка 1918 году ў нашай сталіцы Менску за волю й праўду проці цёмнае вязьніцы духу — Чырвонае Масквы.

**А. К.**

## Катастрафальны стан сельскае гаспадаркі у Беларусі

У Менскай „Зьвязьдзе" ад 24-га красавіка г. г. было агалошанае паведамленьне статыстычнага Упраўленьня Беларускае ССР аб выніках выкананьня дзяржаўнага пляну прамысловасьці і сельскай гаспадаркі за першы квартал 1952 году.

Квартальны плян выпуску валавой прадукцыі ў цэлым у галіне прамысловасьці выкананы, згодна статыстычнага упраўленьня, аж на 103 процанты, але недавыкананы па некалькіх важных галінах прадукцыі. Аб якіх менавіта важных недавыкананых галінах прадукцыі йдзець гутарка, нічога ў справаздачы не сказанае. Ведама добра, што бальшавікі пры ўкладаньні розных статыстычных дадзеных пераважна карыстаюць з не дакладных, а часта толькі набліжаных да сапраўднага стану лічбовых дадзеных. Пры гэтым заўсёды выснавы выкананьня плянаў „закругляюцца" ў кірунку ўзрастальным.

Дзеля гэтага савецкія статыстычныя дадзеныя маюць для нас толькі адносную вартасьць. Па іхных выснавах можна ня дрэнна акрэсьліць агульны характар савецкай гаспадаркі, заўважыць найбольш „расьцьвілыя" як і найбольш адсталыя галіны прамысловасьці й сельскай гаспадаркі.

У квартальным пляне аб выснавах прадукцыі за 1952 год Беларускай ССР найбольш параўнальна слабое месца — гэта адна галіна сельскае гаспадаркі — прадукцыя жывёльнага масла. Плян прадукцыі масла выкананы толькі на 71 процант (і то адно паводле савецкай статыстыкі,у сапраўднасьці-ж можна з усёй пэўнасьцяй сказаць, што процант гэты непараўнальна меншы).

Гэта непахісны довад таго, што стан малочнае гаспадаркі на Беларусі нязвычайна сяньня нізкі. Больш гэтага; нізкі стан малочнай гаспадаркі бясспрэчна як мага лепш сьветчыць аб стане сельскае гаспадаркі на Беларусі наагул.

Узмоцненая, інтэнсыўная сельская гаспадарка характарызуецца ці ацэньваецца перадусім колькасным і якасным станам пагалоў'я жывёлы. І наадварот, аб паслабелай, экстэнсыўнай сельскай гаспадарцы найвыразьней гаворыць за малая колькасьць, а яшчэ больш якасьць жывёльнага пагалоў'я.

Як лягічны выснаў з гэтага можна сьцьвердзіць; 1)што пагалоў'е скаціны ў калгасах і саўгасах савецкае Беларусі за мінулы справаздачны пэрыяд ня толькі ня ўзрос, а яшчэ больш абнізіўся. 2) што якасьць жывога малочнага інвэнтару знаходзіцца ў дрэнным стане, 3)што якасьць і колькасьць кармавых пашаў далёка не адказвае патрэбам рацыянальнае сельскае гаспадаркі і 4) што нізкі стан жывёлагадоўлі і цяглай конскай сілы, рэч зразумелая, у першую чаргу прычыніўся да агульнага абніжэньня прадукцыйнасьці глебы.

У пераважальнай сваёй бальшыні беларускія глебы лёгкія, але досыць урадлівыя, калі іх належна й сваечасова угнойваць натуральнымі угнаеньнямі.

Калгасная і саўгасная гаспадарка савецкай Беларусі, дзякуючы абніжэньню да мінімуму стану пагалоў'я хатняе жывёлы і блізу поўнаму вынішчэньню цяглай жывой сілы (коняў), прычынілася да абядненьня глебы. Выкарыстоуваючы грунты, не дадаючы да іх належнае колькасьці натуральных угнаеньняў і не мэліiяруючы іх штучнымі гнаямі, калгасна-саўгасная гаспадарка на Беларусі сталася сяньня найбольш слабым месцам у агульнай сыстэме савецкай народнай гаспадаркі.

Бязупыннае змаганьне ўсяго вялізарнага й складанага савецкага апарату з беларускім селянінам — калгасьнікам за сваечасовыя пасеўны і ўборачныя кампаніі ды за „высокія ўраджаі" ніколі не разьвяжа сельска-гаспадарскай праблемы, якая так моцна турбуе нашых „апякуноў".

**Гаспадар**

## Пяты Украінскі Кангрэс

У днёх 4, 5 і 6 ліпеня сёлета адбыўся Кангрэс Амэрыканцаў украінскага паходжаньня, 5-ты па ліку ад часу заіснаваньня Украінскага Кангрэсавага Камітэту ў 1940 годзе. На Кангрэс быў запрошаны й Старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня народаў Расеі Адмірал Алан Г. Кёрк.

Газэта „Нью-Ёрк Таймс" у нумары ад сыботы 5-га чырвеня зьмясьціла адмысловую заценку, прысьвечаную Кангрэсу, выражаючы задаваленьне з факту запросінаў Украінцамі на свой Кангрэс Адмірала Кёрка, Старшыні Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі й выказваючы з гэтае нагоды надзею на магчымае ў будучыні паразуменьне і ўлучэньне украінскіх эміграцкіх групаў у агульнае змаганьне супроць сталінскае тыраніі.

Адмірал Кёрк, на абедзе, наладжаным у другім дню Кангрэсу ў гатэлі Статлер, прамаўляў да дэлегатаў 5-га Кангрэсу Амэрыканцаў украінскага паходжаньня, у сваю чаргу заклікаючы украінскую эміграцыю да падтрыманьня пачынаньняў „дапамогі ўсім уцекачом і ўсёй эміграцыі ў справе вызваленьня іхных прастораў з пад жахлівае тыраніі бальшавіцкіх прыгнятальнікаў".

Вялікую прамову сказаў таксама сакратар Нутраных Справаў С. Л. Чэпман. Прэзыдэнт Труман прыслаў Кангрэсу адмысловую прывітальную тэлеграму.

## НОВЫ ФРОНТ

У сьлед за газетай „Бацькаўшчына" падаем нашым чытачом вестку аб новай спробе Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі стварыць агульны супроцьбальшавіцкі фронт.

Як падае прэсавы камунікат канфэрэнцыі, што адбылася 19-21 чырвеня сёлета ў Штарнбэргу (Нямеччына):

**„Штарнбергская канфэрэнцыя расейскіх і нацыянальных арганізацыяў, скліканая 19 чырвеня 1952 году з мэтаю знаходу практычных шляхоў дзеля стварэньня адзінага антыбальшавіцкага цэнтру, 21 чырвеня сваю працу скончыла.**

**У працы канфэрэнцыі прынялі ўдзел наступныя арганізацыі:**

**Азэрбайджанскі Камітэт Нацыянальнага Адзінства.**

**Беларускі Антыбальшавіцкі Фронт.**

**Грузінскі Нацыянальны Саюз.**

**Ліга Змаганьня за Народную Свабоду.**

**Задзіночаньне Армянскіх Змагароў за Свабоду.**

**Расейскі Народны Рух.**

**Паўночна-Каўкаскае Нацыянальнае Задзіночаньне „Скано".**

**Саюз Змаганьня за Вызваленьне Народаў Расеі.**

**Туркестанскі Нацыянальны Камітэт „Туркеллі".**

**Пры поўнай аднадумнасьці ўсіх ейных удзельнікаў знойдзеныя рэальныя прадпасылкі дзеля разьвязаньня галоўнае задачы, што стаяла перад арганізацыямі, прадстаўленымі на данай канфэрэнцыі.**

**Канфэрэнцыя стварыла дзьве спэцыяльныя камісіі:**

**а) часовую міжнацыянальную падрыхтавальную камісію, і**

(Канец на 3 бал.)



**М. Менскі**

# МАЕ УСПАМІНЫ

## *(Янка Купала)*

(Працяг)

4.

Жыць у Савецкім Саюзе — гэта служыць ягоным кіраўніком. Не народу, а якраз вяршаліне, што захапіла ў рукі ўладу. Ня служыш — дык і ня жывеш. Толькі так там ставіцца гэтае пытаньне і іншае пастаноўкі й быць ня можа. Мастацкай музе даўно абарвалі крыльлё, даўно яна з узвышшаў спусьцілася на зямлю, пачала дрыжэць і баяцца. У Савецкім Саюзе добра навучыліся трымаць „асвойную" музу на ланцугу і прымушаць яе „гаўкаць" калі й як хоча ейны гаспадар. Сродкі на гэта ў савецкіх кіраўнікоў самыя розныя. Насамперш — гэтак званая „індывідуальная апрацоўка": пагрозы, ціск, чорныя сьпісы, арышты, выгнаньне, і — наадварот: пяшчоты, абдымкі, усхваленьні, узнагароды, высокае становішча, ардэны...

Янка Купала прайшоў блізу праз усе гэтыя „мэтады індывідуальнае апрацоўкі". У дваццатых гадох Масква наагул гуляла з Беларусяй у ветліву, заахвочвальную гульню. „А, ну, пакажы, што ты ўмееш, братку!" Ішла гэтак званая „беларусізацыя". У ўстановах павесілі беларускія шыльды й шыльдачкі, на вуліцах чулася беларуская гутарка (тады гэта якраз дазвалялася), у крамах знайшліся кніжкі ў беларускай мове, у тэатрах ставіліся беларускія п'есы. На'т самы партыйныя кіраўнікі стараліся размаўляць у тыя часы на „дзяржаўнай мове". Атулялі ўвагаю тады й Купалу, гладзілі па галоўцы, ня вельмі націскалі на ягоную музу. І шмат хто паверыў у сапраўднае разьвіцьцё беларускай культуры. Паверылі (ды й ці толькі ў Савецкім Саюзе) і ўсьцешыліся, думаючы: „а можа й праўда"?

У адказ на даверлівасьць беларусаў Масква, у пачатку трыццатых гадоў, нечакана моцна ўдарыла па нашай радзіме. Пачаўся пагром усяго беларускага, вынішчэньне гэтак званай „нацдэмаўшчыны". Гэта каштавала безьліч ахвяраў — найкультурнейшых, найлепшых людзей.

Янка Купала таксама трапляе ў іхны лік. Арышт. Турма. Спроба скончыць жыцьцё самагубствам.

Гэтую праўду не магла абмінуць нават савецкая гісторыя. Але й праўду можна і падаць і ўспрыняць пароснаму. Савецкая крытыка гаварыла аб гэтым вясёла, бадзёра, пахваляючыся: вось як выхавала чалавека савецкая ўлада — быў вязьнем, а стаўся першым савецкім чалавекам, народным паэтам! Але мы ня можам ставіцца да гэткіх здарэньняў ані вясёла, ні бадзёра. Мы ведаем, якую незагойную рану пакінула ў сэрцы Янкі Купалы, чульлівым і шчырым, „генэральная лінія партыі", здагадваемся, якую трагэдыю перажыў тут і чалавек і паэта.

На пярсьцёнку ў Салямона, як ведама, быў просты, але найглыбейшы філязафічны надпіс: „усё мінае". Мінуў і гэты час на Беларусі. Пайшлі на сьмерць і ссылку адны. Выцалеў да пары Купала. Ды я асабіста пэўны, што наш пясьняр ніколі не забыўся ні аб турэмнай камэры, ні аб сваёй няўдалай спробе скончыць жыцьцё, ні аб тых беларускіх ахвярах, што пайшлі без яго канаць у савецкіх карных лягерох. Але я ўжо казаў аб „ангельскай" вытрымцы Купалы. І праўда — каму-ж раскажаш, да каго зьвернешся? Роднаму брату, сыну — й то не адкрыеш сэрца ў савецкай „праменнай краіне". Мінулася — забылася, так трэба было ўдаваць, прыкідацца. І Купала хутка йзноў аказаўся, пачаў паказвацца на вуліцах, сходах. Чыста паголены. Чыста апранены. З нязьменным кіёчкам. Калі што чытаў — дык і акуляры „пад золата" накладаў. Зусім прафэсар. І не хацелася верыць, што яшчэ так нядаўна давялося яму перажыць савецкую вязьніцу, стаяць між жыцьцём і сьмерцяй. Ды я ведаў, што калі-б падыйшоў хто да яго зьнянацку, пацягнуў за крысо й сказаў спагадліва й шчыра: „Янка, братка ты мой, што-ж яны з табой зрабілі?", — скінуў бы ён сваю „ангельскую" маску й заплакаў як дзіця, чые сны й нявінныя хаценьні разьбіла бязьлітаснае жыцьцё. Бо як дзіця па гэткім расчараваньні часта стацца адразу дарослым, так і Купала стаўся пасьля турмы й хваробы пасвоему „дарослым", навучаным горкім дазнаньнем. Праўда, і раней жыцьцё ня песьціла Купалу, але тое, што давялося яму перажыць у турме, найглыбей закранула яго. Што гэта так, сьветчыць усё далейшае жыцьцё Купалы, аж да дню ягонае таемнічае й трагічнае сьмерці.

5.

„Усё мінае"... Цікавая й прыемная праява жыцьця — імкнуць усьцяж наперад, шукаць і сягаць.

Падгаіўшы раны, заданыя яму першым разгромам, беларускае жыцьцё зноў пачынае плысьці наперад няструмнаю ракой.

У Менскім Доме Пісьменьнікаў, што стаяў на Савецкай вуліцы, адразу даваліся адчуць гэты вечны рух, нясупыннасьць жыцьця. Нарады, паседжаньні, зьезды, канфэрэнцыі, дыскусіі, даклады, рэфэраты, а побач зь імі й вечары й бяседы і балі. Паколькі я ўжо прызнаўся сваім чытачом, што не хацеў бы кранаць вельмі высокія пытаньні, я й тут спынюся на жыцьцёвых, больш бытавых справах Дому Пісьменьнікаў, памінаючы розныя паважныя нарады, ці творчыя сходы пісьменьнікаў, што зьбіраліся тут. Усе-ж людзі, — грэшныя й пісьменьнікі. Дык вось я й сыйду, як гаворыцца, ўніз. Бо трэба ведаць, што ўсё жыцьцё Дому Беларускіх Савецкіх Пісьменьнікаў цякло ці то нагары, ці ўнізе. Пісьменьнікі зьбіраліся тут вялікай грамадой, тут мясьціліся шматлікія сэкцыі, габінэты, аддзелы й пададдзелы, канцылярыя, упраўленьне аўтарскіх правоў... Путаліся тут і „прышывалы" — бяспрытульныя кампазытары й мастакі, у якіх яшчэ ня было тады свайго дому, а таксама госьці — акторы, музыкі, культурныя працаўнікі. Дом Пісьменьнікаў гаманіў, гуў і грымеў. І пасьля якой небудзь бурнай нарады з крытыкай і самакрытыкай, дзе вас, бывала, прачысьцяць „з пясочкам", асабліва прыемна было сыйсьці па вузкіх сходах у самы ніз Дому, дзе мясьціўся буфэт, сталоўка, і які быў добра знаны ўсім прывабнай назваю „падвальчык". Народу там заўсёды была — процьма і знайсьці месца не заўсёды было лёгка. Трэба было або чакаць й доўга стаяць, або „лаўчыцца". „Падвальчык" і „Гара", былі, як кажуць, дыямэтральна процілежныя ня толькі сваёй пабудовай, але яшчэ больш — сваім духам. Калі нагары людзі намагаліся быць асьцярожнымі, гаварылі „як пісалася", а даклад-

# Моладзь і старэйшыя

(Працяг)

іх закінуў лёс, але й на добрых беларусаў, якія любілі-б Бацькаўшчыну, сваіх бацькоў, сваю родную мову, звычаі, ведалі-б сваю гісторыю і працягвалі-б змаганьне за незалежнасьць свайго народу, так як змагаліся за яе іхныя папярэднікі. Заданьне гэтае дужа цяжкое.

Калі беларускія ўцекачы-эмігранты жылі яшчэ ў Эўропе, пад апекай сьпярша УНРА, а пазьней ІРО ў сваіх беларускіх лягерох, — узгадаваньне моладзі ня было такім цяжкім, дзеля таго, што ў гэтых лягерох былі свае нацыянальныя школы, пачатковыя й сярэднія, дзе моладзь знаходзілася пад уплывам настаўнікаў, якія ня толькі вучылі дзяцей, але і намагаліся ўзгадаваць іх на добрых беларускіх патрыётаў. Апрача таго, былі ў Эўропе й маладзёжныя арганізацыі, із асабліва дзейнаю й пашыранаю скаўцкай арганізацыяй на чале, дзе нашая моладзь таксама узгадоўвалася і на людзей, і на добрых грамадзян свае радзімы. Гэтае беларускае нацыянальна-патрыятычнае ўзгадаваньне, хай трывала ўсяго колькі год, дало вялікія вынікі. Частка так узгадаванае моладзі сягоньня вучыцца ў вышэйшых навучальнях Амэрыкі, Францыі, Гішпаніі ды Бэльгіі (шырака знаная група беларускае студэнцкае моладзі з Лювэнскага Унівэрсытэту ў Бельгіі), падаючы добрыя надзеі на тое, што з гэтае моладзі ўжо ў недалёкай будучыні мы будзем мець ня толькі добрых спэцыялістых свайго фаху, але й добрых беларускіх дзеячоў — патрыётаў, якія з гонарам панясуць далей сьцяг змаганьня за лепшую долю свае Радзімы й народу. Так сама і ўзгадаваная ў вышай успомненых сваіх школах моладзь, што з тых ці іншых прычынаў сяньня ня вучыцца, а працуе на жыцьцё, паказала сябе з найлепшага боку, як напр. нашая моладзь у Кліўлэндзе ці Нью-Ёрку.

На жаль, ня ўся беларуская моладзь гэткая. Ёсьць шмат маладых дзяўчат, а асабліва хлапцоў, што апынуліся пад уплывам варожых беларускай справе дзейнікаў. Гэтая моладзь раскладаецца маральна, аддаючыся п'янству ды іншым благім схільнасьцям. Нейкія цёмныя сілы вядуць сярод гэтае моладзі прапаганду аб няпрызнаваньні аўтарытэту старэйшых, аб стварэньні нейкае „арганізацыі" моладзі, якая была-б абсалютна незалежнай ад якіх-колечы уплываў старэйшых і т. п. Які небудзь 18-цёх гадовы хлапчук, дэманстрацыйна заяўляе старэйшай асобе, што „старэйшыя скамправітаваліся", што „мы, моладзь, зарганізуемся самы й пакажам старэйшым"... Ясна, што гэта толькі сумная няведа жыцьця скалечанага недаростка, у ўяўленьні якога стварыць „арганізацыю" таксама лёгка, як пайсьці на вечарынку, сьпярша добра выпіць, а тады ўсю ноч танцаваць ці біцца.

Прапаганда аб непрызнаваньні аўтарытэтаў старэйшых тыпова савецкага тут на эміграцыі паходжаньня. Аднак у СССР гэткі кірунак выхаваньня быў „модны" адно ў першых гадох па рэвалюцыі, бо спасьцярогшыся, якія шкодныя вынікі ён даў, бальшавікі вельмі хутка яго адкінулі. Але дзеля дэмаралізацыі **эміграцыі** бальшавіцкія агенты вельмі ахвоча тарнуюць яго ў дачыненьні да нашае моладзі тут і сяньня. Бо што уяўляе зь сябе па праўдзе непрызнаваньне старэйшых? Гэта-ж не прызнаваньне і свайго народу, сваіх правадыроў і героях, што былі ж нашымі „старэйшымі" у дачыненьні й да нас, і да сяньняшняга нашага маладога пакаленьня, што ўжо адыйшлі, як адыйдзе неўзабаве й цяперашняе старэйшае пакаленьне, улажыўшы адпаведны ўклад у нашую гісторыю. А не прызнаваць гісторыю свайго народу, гэта ня мець ніякага грунту пад сабой, гэта тое самае, што кінуць зярнё не ў падрыхтаваную глебу, а на ваду, дзе яно ніколі ня ўзыйдзе й ня дасьць ураджаю.

Таму трэба, каб нашае старэйшае грамадзянства зьвярнула пільную ўвагу на такую моладзь. Кажны нацыянальна-сьведамы беларус, якому дарагая беларуская справа, павінен пачувацца да абавязку пры кажнай нагодзе зьвяртаць увагу на ўчынкі й словы нашае моладзі, выясьняючы ёй ейныя памылкі, ці хочуць яны гэтага слухаць, ці не. Найлепш, было-б, ведама, узяць такую пакалечаную моладзь у свае беларускія школы, але сяньня гэта немагчымае. Астаецца адно — ўцягваць гэтую моладзь у арганізацыі беларускае моладзі, дзе пануе здаровы маральны й патрыятычны дух.

У ЗША існуюць дзьве гэткія арганізацыі — для маладзейшых — скаўцкая, а для старэйшае моладзі Згуртаваньне Беларускае Моладзі (ЗБМ). На чале абедзьвух арганізацыяў стаяць людзі, што із любасьцяй і ахвярна аддаюцца справе арганізацыі і ўзгадаваньня нашае зьмены. Праца іхная дала ўжо вельмі добрыя вынікі. Сьветчыць аб гэтым хоць-бы Агульны Зьезд моладзі ЗША у Кліўлэндзе, або зьезд беларускае моладзі ў Нью-Ёрку, які адбыўся сёлета ў траўні. Сапраўды было з чаго цешыцца сэрцам старэйшых, чуючы нарады гэтага зьезду, дзе моладзь вельмі паважна, із зразуменьнем свайго заданьня перад беларускім народам і Бацькаўшчынай абмяркоўвала свае маладыя справы.

Але аднае працы кіраўнікоў моладзі ня стане, калі іх не падтрымае старэйшае беларускае грамадзтва. Ягоным заданьнем супрацоўнічаць із кіраўнікамі арганізацыяў, дапамагаць ім і ад сябе ўплываць пры кажнай нагодзе на маладзейшых. Калі навяжацца гэткая сувязь паміж імі й намі, старэйшымі, нашая моладзь напэўна будзе й маральная і патрыятычная, і станецца дастойнаю зьменай старэйшага грамадзянства, якое натуральнай сілай рэчаў адыйдзе некалі і ад беларускае працы й ад жыцьця наагул.

Старэйшы

# Песьняй толькі на сьвеце жыву я

(СЬВЯТКАВАНЬНЕ ДЗЕСЯТЫХ УГОДКАЎ СЬМЕРЦІ Я. КУПАЛЫ)

— „Песьняй толькі на сьвеці жыву я", хацелася сказаць кожнаму, пакідаючы залю, дзе адбылося, ладжанае сёлета Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, як найпаважнейшай на эміграцыі установай, да гэтага пакліканай, — акадэмія, прысьвечаная 10-ым угодкам сьмерці нашага найвялікшага паэты Янкі Купалы.

Бо папраўдзе, гэта было сьвята нашае вечна жывое беларускае песьні, да якое столькі простых, шчырых і столькі ўсхвалявана-магутных словаў даў наш вялікі пясьняр.

Урачыстасьць пачалася жалобнай песьняй „Зваяваным", на словы Купалы. Яна прагучэла спакойна, наканавана й стварыла адразу належны настрой. Мо'таму ўступнае слова Старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва Ул. Васіля слухалася ў глыбокай цішы. Старшыня прыраўнаў у сваім уступным слове Купалу да мітычнага героя-волата старадаўнасьці — Прамэтэя. І для нас Купала сапраўды — Прамэтэй. За тое, што ён хацеў навучыць свой народ „людзмі звацца", імкнуўся дастаць яму таго вагню зь неба — волі й шчэсьця, — ён як і Прамэтэй быў закуты ў ланцугі й мусіў цяжка пакутваць даўгія гады.

Купалу, як беларускага змагара й ахвяру бальшавіцкае няволі, — прадставіў у сваім рэфэраце й праф. Я. Ліманоўскі. Рэфэрат быў цікавы і зьмястоўны, адно што можа паданы слухачом крыху за суха, паакадэміцку. Асаблівы націск быў пакладзены рэфэрэнтам на выяўленьне варожых да Купалы адносінаў усяе бальшавіцкае крытыкі на працягу даўгіх год у проціляжнасьць да сяньняшняга нахабнага ўсхваленьня ёю Купалы, як „вернага й адданага" бальшавіком паэты.

Пасьля рэфэрату пачалася мастацкая частка ўрачыстасьці, цалкам прысьвечаная творчасьці нашага вялікага песьняра-прарока.

Яна сапраўды пацешыла ўсіх і сваім зьместам, і выкананьнем, стаўшыся найцікавейшым довадам багатага й разнастайнага настрою вершаў Купалы. Можна сказаць, што нідзе й ніколі дагэтуль слухачом не давялося адцеміць столькі адценяў Купалавае творчасьці. Пачынаючы ад тэмаў гора й тугі, або заклікаў да народу, якія звычайна толькі й выкарыстэўваліся пры гэткіх нагодах, — сёлета нашае беларускае грамадзянства пачула й творы, пабудаваныя на драматычных перажываньнях паэты, на паэтычнай лірыцы беларускае прыроды, ціхім, пяшчотным каханьні, несьмяротным харасьцьве матчынае калыханкі і, нарэшце, радасных, бадзёрых, сьветлых матывах жыцьця беларуса, ягоным далікатным і цёплым гумары.



Дзявочы ансамбль сьпявае

Вялікшую ролю ў гэтым шырокім паказе паэтыцкае творчасьці Я. Купалы меў ведамы ўсім нам кампазытар праф. Куліковіч, які, памінаючы ўжо знаёмыя слухачом творы, напісаў адмыслова да гэтага сьвяткаваньня вянок зусім новых песьняў і рамансаў („Паўстань, народ", „Марш моладзі", „Дайце мне волю", „Вясьнянка", „Песьняй толькі на сьвеце жыву я", „Кацярына", „Лета" й інш.).

Добра ведаючы асабіста Купалу, М. Куліковіч патрапіў у ўсіх гэтых творах удала захаваць перажываньні тонкае й чулае душы паэты.

Выконваліся гэтыя рэчы нашымі таленавітымі сьпявачкамі П. Градэ й Б. Вержбаловіч, што нязвычайна выразна й характэрна перадалі ў сваім выкананьні думкі й пачуцьці паэты й кампазытара. Асабліва трэба адценіць у выкананьні Б. Вержбаловіч магутную Купалаўскую баляду „Паўстань, народ" і вясёлую, пранізаную тонкім гумарам „Кацярыну". (Паўтораную на патрабаваньне прысутных), а ў выкананьні Н. Градэ — драматычны раманс „Дайце мне волю", „Вясьнянку" й лірычнае „Ты прыйдзі", якое сьпявачка мусіла таксама паўтараць „на біс".

Зачараваныя песьняю, слухачы із захопленьнем прыймалі і дуэты нашых опэрных сьпявачак („Роднае слова", „У садочку", „Песьняй толькі", „Лета"), і песьні ў выкананьні нашых маладых аматарак Н. Кушаль і Г. Ганчарэнка, а таксама із майстэрствам і маладою шчырасьцяй выкананыя дзявочным ансамблем песьні на словы Купалы: „Нёман" і „Гэй, мы брацьці".

Дэклямацыі было ня шмат. Добра прачыталі вершы Купалы — Уступ да паэмы „Ён і яна" — Н. Кушэль і „Песьня сонцу" — Б. Данілюк. Таксама ўдала прайшоў мантаж з вершаў і песьняў на словы Я. Купалы, пастаўлены сп. Н. Орсай пры ўдзеле сяброў і сябровак „Маладняку".

Вартым усяго канцэрту заканчэньнем было выступленьне хору „Маладняка" пад кіраўніцтвам сп. А. Валюшкі. Дарма, што зусім малады, (хор меў усяго колькі сьпеўкаў), хор гэты паказаў сябе з найлепшага боку. Нашыя сапраўдныя, найчысьцейшыя ў сваім несьмяротным харасьцьве беларускія песьні, што выканаў хор, („А ў полі вярба" ў апрацоўцы Анцава, „А ў лузе каліна", у апрацоўцы Уладзімерскага й „Зязюля" — на словы Я. Купалы, муз. Валынчыка), да сьлёз узрушылі й захапілі прысутных.

І сваймі, блізкімі й зразумелымі сталіся ўраз для ўсяе залі словы паэты:

„Песьняй толькі на сьвеце жыву я,
Праз яе тапчу толькі расу.
Пасьцігаю, як ёй запаную,
Недасьціглую сьвету красу".

**К—а**

# Купальле над Ніагарай

Галоўны Урад Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША займеў вельмі ўдалую думку наладзіць экскурсыю моладзі на Ніягарскія вадапады — адну зь цікавейшых асаблівасьцяў сьвету.

Наладзіць экскурсыю, каб усё йшло гладка і ўсе былі задаволеныя, — рэч у нашых умовах ня лёгкая. Аднак, дзякуючы нястомнасьці, умеласьці і добрай ахвоце кіраўнікоў, усе цяжкасьці былі пераможаныя і 4-га ліпеня раніцою ўсе ўдзельнікі экскурсыі, нявыспаныя, але прыемна ўсхваляваныя выпаўнілі да апошняга месца адмыслова наняты аўтабус, удаючыся ў далёкае (больш за 500 міляў у адзін бок), цікавае падарожжа.

Арганізаваная была экскурсыя вельмі добра. Над Ніягарай зьехалася моладзь, а таксама й старэйшыя з розных куткоў амэрыканскае зямлі: Нью-Ёрку, Саўт-Рыверу, Кліўлэнду, Дэтройту, Пэорыі.. З Чыкага прыехаў сустрэцца із сваімі былы міністар надзвычайных справаў аднаго з першых Урадаў Беларускае Народнае Рэспублікі Янка Чарапук-Змагар. Праграма экскурсыі прадугледжвала наведаньне Ніягарскіх вадападаў і сустрэчу з канадыйскімі беларусамі на канадыйскім баку, дзе мелася быць супольна адсьвяткаванае беларускае Купальле із вогнішчам, песьнямі й кіданьнем вянкоў.

Падарожнікі прыехалі над Ніягару позна ўвечары 4-га ліпеня. Дзякуючы спраўнай арганізацыі — праз якія поўгадзіны ўсе ўдзельнікі, пакінуўшы рэчы ў загадзя абсталяваных у гатэлі выгодных пакоях, пайшлі на вадапад. Магутная паводка ўсьпененае вады была асьветленая дзесяткамі каляровых рэфлектараў. І вада, і фантастычныя скалы, й аблокі воднае ймглы, пранізаныя сінімі, зялёнымі, жоўтымі й чырвонымі праменьнямі, і ночнае неба, ўпрыгожанае месяцам у поўні, — усё рабіла ўражаньне дзіўное, чароўнае казкі. Хоць усе падарожнікі былі стомленыя даўгім падарожжам у сьпеку, не хацелася з гэтаю казкай разьвітацца. На заўтрае, ледзь разьвіднела, — ўсе йзноў пайшлі на вадапады.

Мы скрозь успамінаем аб вадападах, бо іх на Ніягары колькі. Найбольшы зь іх — у Канадзе, другі на веліч — па амэрыканскім баку. Вадапад гэты быў упяршыню пабачаны вачыма белага чалавека ў 1678 годзе. Адкрыў яго францускі манах-місіянер а. Люі Гэннепін, які й апісаў і вадапад і свае ўражаньні ў пакіненай нашчадкам хроніцы.

Уражаньне ад вадападу ўдзень, дарма што не такое фантастычнае, — блізу ці ня большае, магутнейшае. Колеры неба, дзіўна зялёнае вады, белае пены й шматкалёрнасьць вясёлкаў, што стаяць над воднаю сьцяною, пакідаюць незабыўнае ўражаньне на'т на чалавеку, пазбаўленым мастацкіх узрушаньняў. Кажны чуўся тут дробным зерняткам пяску, раўнуючы да магутнае велічы прыроды.

Удосыць нацешыўшы вочы вадападам на амэрыканскім баку, — падарожнікі йзноў селі ў аўтобус і пераехалі праз Канадыйскую мяжу на той бок. Агледзілі галоўны Ніягарскі вадапад, які із шалёным імпэтам нізрынаецца ў бездань, а тады паехалі на сустрэчу з канадыйскімі беларусамі.

Сустрэча гэтая была вельмі ўрачыстая й прачулая. Абедзьве групы ўставіліся адна насупраць другой. Ад „канадыйцаў" прывітаў гасьцей старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе сп. Ганько, ад „амэрыканцаў" — кіраўнік Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША сп. М. Тулейка, прэм'ер БНР сп. Махноўскі, старшыня БАЗА ген. Кушаль і Янка Чарапук-Змагар.

Пасьля афіцыйных прывітаньняў і ўзьняцьця беларускага сьцягу, абедзьве групы зьмяшаліся. вітаючыся й цалуючыся пасьля даўгіх год растаньня. Шмат хто ня бачыўся па 10, 15, а нават 30 год. Ці-ж дзіва, што ўцеха й узрушаньне былі вялікія.

Усе паселі на сенажаці. Сп. Жук-Грышкевіч, які наважыў скарыстаць нагоду й адною грамадой адзначыць 10-ыя ўгодкі сьмерці Я. Купалы, прачытаў вельмі цікавы рэфэрат аб нашым несьмяротным песьняры-прароку, аддаючы асаблівую ўвагу Купале, як грамадзяніну. Пасьля гэтага адбылася невялікая мастацкая частка, у якой узялі ўдзел як нашая моладзь, так і „канадыйскія" мастакі.

Скончылася незабыўная сустрэча адсьвяткаваньнем беларускага Купальля. Над берагам нейкае канадыйскае рэчкі, парослай, як і ў нас на Беларусі, пахілымі старымі вербамі, пад цёмным небам, на якім трымцелі нашыя-ж, здавалася, беларускія зоры, — было распаленае вялікае вогнішча. Моладзь сьпявала, скакала праз вагонь, кідала на ваду вянкі. Усе забыліся, дзе яны. І ці аднаму здавалася, бачачы вакол знаёмыя, даўно ня бачаныя твары суродзічаў, што мы — на Бацькаўшчыне.

Адно позна ўначы згасла вогнішча й давялося разьвітацца. А на заўтраеаўтабусы павезьлі Нью-ёркцаў у адзін бок, Кліўлэндцаў — у іншы і ад сустрэчы асталіся толькі радасная й сумныя ўспаміны.

Канчаючы гэтую вязку сьвежых уражаньняў з экскурсыі, трэба павіншаваць Галоўны Урад ЗБМ у ЗША з удалым пачынаньнем і пажадаць, каб гэткія падарожжы ладзіліся якнайчасьцей.

Бо нішто так не задзіночвае й моладзь і старэйшых ў адну вялікую, дружную беларускую сям'ю, як ураджаньні, перажытыя ў часе мінулага ніягарскага зьлёту.

**Адзін з сотні.**

## РАЗЬВЯЗКА КРЫЖАСЛОЎЯ З ПАПЯРЭДНЯГА НУМАРУ

Гарызантальна:

1. Палац. 6. Лянок. 10. Яд. 11. Ленін. 13. М. А. (Мікола Абрамчык). 14. Памідор. 16. Ака. 18. Яна. 19. Ура. 21. Кулі. 23. Амур. 24. Піва. 25. Зруб. 26. Нота. 28. Аніс. 30. Яны. 31. Ас(в)а. 33. Іна. 34. Калёнія. 37. Аа. 39. Мінор. 40. Ён. 41. Змрок. 42. Дарма.

Вэртыкальна:

1. Пятак. 2. Ад. 4. Ала. 5. Цемя. 6. Ліда. 7. Яно. 8. Ом. 9. Катар. 12. Ніна. 14. Палітык. 15. Румунія. 17. Купон. 20. Рубін. 22. Іва. 23. Ара. 26. Няраз. 27. Ясен. 29. Сасна. 31. Алік. 32. Анод. 35. Амо. 36. Іра. 38. А. М. 40. Ем.



Нашыя опэрныя сьпявачкі Б. Вержбаловіч і Н. Градэ.

## „НЯСЛАЎНЫ" ЗАКОН

(Канец з 1-ое бал.)

з нас, атрымліваюць харчы, якіх хапае толькі каб не памерці, і маюць адно дах над галавой, што ахоўвае іх, дый не заўсёды нават як належыць, ад дажджу й сьнегу. Надзеі на атрыманьне працы й палепшаньне жыцьця сяньня ніхто зь іх ня мае, няма вялікае надзеі, у сувязі із новым эміграцыйным законам Мэк-Кэррэна й на эміграцыю ў ЗША, аб чым бальшыня зь іх марыць.

Улады й паліцыя Заходняе Нямеччыны ставяцца да іх з недаверам, як да людзей, што прыйшлі „адтуль", падазраючы ў кажным савецкага шпіка, і ўрэшце рэштаў яны абсалютна ня маюць што рабіць із сваім часам.

Зацемка аб гэтай справе, якую мы падаем паводле газэты „Нью-Ёрк Таймс", канчаецца словамі:

„На'т ужо сяньня, дарма што зацьверджаны эміграцыйны закон Мэк-Кэррэна, які названы прэзыдэнтам Трумэнам „няслаўным", варта падумаць аб новым пераглядзе нашае (амэрыканскае) эміграцыйнае палітыкі. У мінулыя часы ніхто ніколі не зьвяртаўся да Амэрыкі із прапановаю прыняць мільёны ўцекачоў. Аднак, Амэрыка магла-б прычыніцца да справы міру, прыймаючы больш гэтых адважных людзей з лягероў Заходнае Нямеччыны і падбадзёрваючы да ўцекаў з пад савецкае тыраніі іншых, што ненавідзяць бальшавізм, але ня ведаюць, куды кінуцца, каб ад яго ратавацца".